Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана зсобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. аг 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 12 — Вільня, Субота, 28-га жніуня 1926 г. — Год I.

## Амністыя і—школа.

У сучасны мамэнт жыцьцё само высунула на першы плян дзьве справы, на якія мусіць быць скіравана ўся энэргія сацыяльна й нацыянальна сьвядомых беларусаў, перадусім—ўсіх беларускіх арганізацыяў на мясцох. Гэта—*справа амністыі палітычным вязьням* і—*справа беларускае школы.*

Справа звальненьня палітычных вязьняў—гэта ня толькі справа тых нашых байцоў за волю і шчасьце працоўнага народу, якія мучацца за кратамі: гэта перадусім справа *агульная* — справа *свабоды палітычнае працы наагул.* Абвясьціўшы партыю камуністаў „праступнай“, цяжка караючы ўсіх учасьнікаў яе, польская дэфэнзыва, а за ёй і польскія суды вельмі часта пад „камуністаў“ падводзяць усіх, хто так ці сяк імкнецца да зьмены істнуючых у Польшчы несьцярпімых сацыяльных і нацыянальных адносінаў. Пад „камуністаў“ падводзяць часта працаўнікоў на ніве беларускае нацыянальнае культуры, і ўжо аднаго факту арганізацыі масавае падачы дэклярацыяў за беларускую школу, ці-то закладзінаў такое школы—даволі, каб аб'явіць чалавека „неблаганадзёжным“ („nieprawomyślnym“) з усімі скуткамі гэтага. Бадай да кожнага беларускага палітычнага працэсу прычэпліваецца наклейка: „камуністы“, ды на гэтай падставе выносяцца запраўды-ж драконаўскія прыгаворы.—І мала гэтага: урад у адзін пекны дзень можа кожную палітычную партыю—самага легальнага характару! — абвясьціць таксама „антыпаньствовай“ і тасаваць да яе тыя-ж мэтады барацьбы, як да камуністаў.

Вось-жа трэба ясна і адкрыта заявіць, што такое палажэньне рашуча *выключае свабоду палітычнае самадзеяльнасьці грамадзянства.* І пакуль палітыка польскае дзяржавы ня зьменіцца, пакуль ня будуць звольнены з вастрогаў усе тыя, што пакутуюць за кратамі ў сувязі з іх палітычнымі перакананьнямі,—датуль у Польшчы *палітычнае свабоды наагул ня будзе.*

Ня можна гаварыць таксама і аб свабодзе нацыянальнай, пакуль ня зьдзейсьнена навет самае элемэнтарнае дамаганьне „нацыянальных меншасьцяў“, прызнанае на паперы польскай канстытуцыяй і „забясьпечанае“ міжнародавымі трактатамі: гэта — дамаганьне *роднае школы.* Школа ў роднай мове—гэта-ж найважнейшы варунак дзеля разьвіцьця нацыянальнае культуры народу, дзеля яго духовае самастойнасьці. Наадварот—чужая школа зьяўляецца найстрашнейшым ворагам нацыянальнасьці, тормазам для сьвядомасьці масаў і для поступу у іх духовым разьвіцьці. І пакуль гэтае першае нашае дамаганьне ня будзе зьдзейсьнена, пакуль мы ня будзем мець роднае школы, утрымліванае дзяржавай за тыя грошы, што бяруцца ў насжа падаткамі,—датуль ня можа быць ніякае надзеі на нейкія ўступкі польскае дзяржавы ў нацыянальным пытаньні, *ня можа быць гутаркі аб нацыянальнай волі для беларусаў пад Польшчай наагул.*

Вось чаму так неразрыўна зьвязаліся ў гэты мамэнт гэтыя дзьве справы: амністыі і роднае школы. Вось чаму так горача адгукаюцца на іх беларускія працоўныя масы мест і вёсак. Гэта-ж—*першы крок і да палітычнае і да нацыянальнае волі*!

## Ігра з вагнём.

Здарэньні, аб якіх нас паведамляюць з Крынак і Алекшыцаў, Горадзенскага пав. (падробнасьці падамо ў наступным нумары), упісываюць новыя факты ў гісторыю Заходняй Беларусі пад Польшчай.

Новымі зьяўляюцца і тактыка мясцовай адміністрацыі, і тое, як рэагуюць на яе крыўджаныя адміністрацыяй народныя масы...

Дагэтуль пасольскія мітынгі—або забараняліся ўладай, або, як было яшчэ раней, — дазваляліся, але зрываліся арганізаванай тэй-жа паліцыяй у змове з асаднікамі і шпікамі азброенай „апазіцыяй“... Цяпер прынята, як відаць з аднолькавасьці тактыкі ў Крынках і Алекшыцах, новая сыстэма, прынамся ў Горадзеншчыне. Гэтая новая сыстэма адзначаецца тым, што дазвол на мітынг даецца, але перад самым пачаткам пасольскай прамовы, на якую ўжо чакае некалькі-тысячная таўпа сялян, зьехаўшыхся з усей ваколіцы, прыходзіць забарона...

Хто хаця крыху ведае ці чуў аб тым, што навука заве „псыхалёгіяй таўпы“, той ведае, што ў гэткі мамэнт прамоўца, ці так-званы „адказны кіраўнік“ мітынгу робіцца ў такой меры залежным ад таўпы, у такой меры зьвязаным з ёй, што рваць гэтую сувязь, ламаць настрой і спадзяваньні таўпы—рэч больш, чым небясьпечная. Ці ведаюць гэта прадстаўнікі горадзенскай адміністрацыі, ці сьвядома яны хочуць выклікаць гэтую небясьпеку, мы судзіць тут ня будзем.

Але ў абодвух выпадках тыя, што дазваляюць сабе так іграць магчымасьцю праліцьця крыві, ня могуць быць паківуты на іх становішчах ніводнага дня далей...—Бо-ж, — калі гэта робіцца сьвядома, дык гэткая сыстэма мае бясспрэчны і точны вазоў правакацыі, калі гэта робіцца „нясьвядома“, а „так сабе“, дык гэткім паном з недасьпелым розумам тым больш ня мейсца на тых адказных становішчах, якія яны занялі. Але, калі, як ясна кожнаму, прадстаўнікі горадзенскай адміністрацыі не аказаліся адпаведнымі дзеля свайго становішча, дык трэба сцьвярдзіць, што зусім і цалком на вышыні адказнага мамэнту і важнасьці сваей ролі апынуўся пасол з „Грамады“ Валошын: толькі дзякуючы яго прысутнасьці духа, энэргіі, тактоўнасьці—ўся справа ў абодвух мейсцах абыйшлася без вялікшага праліцьця крыві...

Мы лічым сваім абавязкам з усей рашучасьцяй запратэставаць тут проці гэтае новае сыстэмы барацьбы польскае адміністрацыі з „Грамадой“.

## Барацьба за права на грабёж.

Перад Агульным Зборам Лігі Народаў, якая, „яднаючы ў адзіны саюз усе народы“, быццам выключае паасобныя саюзныя дагаворы між сваімі сябрамі, скіраваныя проці іншых групаў, — якраз гэтыя паасобныя саюзы пасыпаліся папросту дажджом! Гішпанска-італьянскі дагавор, англа-італьянскі (у справе „падзелу Абісініі“), грэцка-югаслаўскі, польска-югасаўскі, польска-гішпанскі, француска-румынскі, італьянска-румынскі, турэцка-італьянскі і г. д. і г. д. Адны з іх ужо зусім гатовы, аформлены і падпісаны; другія рыхтуюцца да падпісу...

Усе гэтыя дагаворы і саюзы пякуцца, як бліны—ў зьвязку якраз з набліжаючайся сэсіяй Лігі Народаў... З гэтага ясна далей, што — на гэтай сэсіі Лігі мае быць рашучая барацьба між цэлымі варожымі групамі дзяржаў; ясна і тое, што фактычна Ліга Народаў, ядналючая ўсе дзяржавы ў адзіны супольны саюз, збанкрутавала на ўсей лініі, што гэта такі „міжнародавы Сойм“, у якім людзі—толькі зьбіраюцца гаварыць аб тым, што ўжо вырашана раней.

З усіх гэтых новых саюзных дагавораў можа найбольш цікаўнымі зьяўляюцца тыя, якія высоўвае і рэалізуе Італія, якая разьвівае нязвычайную актыўнасьць у сваей замежнай палітыцы. Італія зусім ня ўкрывае, што ўсе яе імкненьні ідуць у напрамку „захвату спадчыны па Францыі“...

Францыю пачынаюць выцясьняць зусюль яе мацнейшыя таварышы-канкурэнты... Найбольш характэрнай азнакай гэтага зьяўляецца дагавор гішпанска італьянскі, які толькі-што стрэліў-бы пярун спасярод яснага неба.

Здавалася-б, толькі што Францыя з Гішпаніяй пабраталіся ў супольнай жываедзкай вайне ў Марокко; але-ж вось, ледзь скончылася гэтая вайна, як Гішпанія заключае яўна скіраваны проці Францыі дагавор з Італіяй. Міжнародная буржуазія, заўседы выступаючая адзіным фронтам проціў працоўных мас і паняволеных народаў, награбіўшы ніяк ня можа падзяліць дабытае, і тут зьмест усіх гэтых спораў, тут пачаток войн.

Гішпанска італьянскі саюз мае мэтай супольную акцыю на Сяродземным моры, якое абедзьве дагаварыўшыяся дзяржавы лічаць—„сваім“... Ня лічаць толькі яго так сама і француским, нягледзячы на тое, што для Францыя, ня кажучы аб чым іншым, гэтае мора—шлях, які лучыць Францыю з яе афрыканскімі калёніямі, па свайму прастору ў некалькі разоў большыя за сваю мэтраполію... Дык ясна-ж, што падрыхтаваны Італіяй саюз якраз і мае біць па гэтым шляху, лучачым Францыю з яе афрыканскімі калёніяльнымі валадзеньнямі, якія робяць Францыю сусьветна-імпэрыялістычным „моцарствам“...

Ясна, што, пагражаючы гэтаму шляху, Італія мае апэтыты на гэтыя афрыканскія валадзеньні Францыі, якая, слабеючы ўсё больш і больш, дойдзе ўрэшце да таго, што выпусьце з сваіх рук захопленае... Усё мацнеючая мілітарна Італія фашыстаў лічыць, што першым насьледнікам Францыі ў Афрыцы павінна быць якраз яна...

Есьць некалькі прычын слабасьці Францыі. Перадусім вайна зьнішчыла гаспадарку яе найбольш. Даўгі ваенныя не даюць ей дыхаць. Францыя слабее і дзеля таго, што яна папросту — вымірае: яе насяленьне зьмяншаецца штогодна, калі ўсюды на сьвеце насяленьне расьце. А ў Італіі дык расьце з страшэннай хуткасьцю, і справа шуканьня для насяленьня новых тэрыторыяў робіцца палючым пытаньнем яе істнаваньня...

Ведама, што ўжо цяпер у францускіх калёніях у Афрыцы мяйсцамі шмат больш італьянцаў, як францзаў; дык фактычны захват іх Італіяй ужо ідзе, а юрыдычны—толькі пытаньне часу...

Італьянская прэса, якая, ведама, амаль ня ўся ў руках урадавай партыі фашыстаў, зусім ня ўкрывае мяркаваньняў свайго ўраду.—Яшчэ ясьней раскрывае гэтыя пляны апазыцыйная прэса ў Італіі. Яна раскрывае найбольш цікаўную рэч: гэта—поўнае паразуменьне Італіі ў сваіх імкненьнях... з Англіяй!

Італьянскія дэмакраты раскрываюць, што фашыстаўская Італія паразумелася з няменш рэакцыйнай англійскай буржуазіяй, каб „зашахаваць дэмакратычную Францыю“, якая стаіць на шляху Італіі да яе „моцарствовага“ разьвіцьця...

Што роля Англіі ў гэтай акцыі Мусоліні — бясспрэчна, найлепш паказуе іншае паразуменьне Англіі з Італіяй—так сама адносна афрыканскай тэрыторыі і так сама яўна проці Францыі. Як ведама, нядаўна Англія з Італіяй падзялілі выключна між сабой „ўплывы ў Абісініі“, ня гледзячы на тое, што істнуе не скасаваны яшчэ дагавор у справе гэтых уплываў—між Англіяй і Францыяй! Францыя рэзка пратэставала проці гэтага нарушэньня яе „правоў“ ў Абісініі, навет навучыла Абісінію падаць скаргу ў Лігу Народаў. Але Англія выкруцілася досьць няўважна адносна да Францыі. Дык ясна, што за дагаворам між Італіяй і Гішпаніяй, скіраваным проці Францыі, стаіць больш важнае і магутнае паразуменьне Італіі з Англіяй, скіраванае так сама проці Францыі — на выпадак, калі прыдзе час дзяліць францускія калёніі, якіх ня здолее больш утрымліваць Францыя.

Ведама, што англійскі флёт у Сяродземным моры—мацнейшы за францускі. Ведама, што істнуе дагавор між Англіяй і Грэцыяй, які аддае ў разе патрэбы ў распараджэньне Англіі ўвесь грэцкі флёт. А вось цяпер – пад кіраўніцтвам тэй-жа Англіі—стварылася новая „змова“ проці „францускай гэгэмоніі на Сяродземным моры“, ці прасьцей кажучы—змова дзяржаў, якія ў патрэбны мамэнт могуць сваім флётам легка адрэзаць ад Францыі ўсе яе афрыканскія калёніі — парацяўшы яе марскі шлях...

Няменш трагічна выглядае лёс Францыі і з іншага боку. Італія, якая мілітарна ўсё крапчэе, як ведама, не дайшла яшчэ да поўнага парадку з боку фінансаў. Яе ліра ніяк ня можа дайсьці да запраўднай раўнавагі. Як і ў-ва ўсіх іншых дзяржавах, вочы яе кіраўнікоў зьвяртаюцца ў бок магутнай фінансава Амэрыкі. У руках Амэрыкі—фінансавае жыцьцё, ці сьмерць і Францыі. Дык ясна, што бязчынна глядзець на тое, што робіцца ў Францыі і з Францыяй, дзякуючы яе эўрапэйскім „прыяцелям“, Амэрыка ня будзе... Амэрыка бачучы занапад Францыі, хоча ўхапіць і сваю, мо й найвялікшую долю яе зямельных валадзеньняў, якія вываліваюцца з яе слабеючых рук...

Толькі-што вялікую сэнсацыю зрабіла пісьмо ведамага героя Вялікай вайны Клемансо. Кажучы аб абавязку Амэрыі скасаваць даўгі саюзьнікаў, якія біліся разам за „вызваленьне сьвету“ ад нямецкага бота, Клемансо востра закідаў амэрыканцам, што яны хочуць фінансавага ды ўсялякага банкруцтва Францыі, каб змусіць яе — адступіць Амэрыцы частку сваей дзяржаўнай тэрыторыі... „Францыя ня выстаўлена на распрадажу!“ — ня столькі горда, скольки адчайна — горка крычаў у сваім лісьце Клемансо...

На жаль,—якраз гэта і праўда, што — ўжо выстаўляецца..

Пагроза Францыі ідзе, як бачым, з двух бакоў: з боку мілітарнага захвату — мілітарна мацнеючай Італіяй, якая дзеля гэтага зрабіла ўжо цэлы ланцуг патрэбных саюзаў; і з боку фінансавага дыктатара-ліхвяра сьвету — Амэрыкі, якая можа змусіць Францыю—прадаць частку сябе, каб ратаваць пакуль-што рэшту свайго дзяржаўнага цела.

Капіталістычны лад неразрыўна зьвязаны з спорамі асобных буржуазныя груп, кіруючых дзяржавамі, за права на эксплёатацыю калёній. Калёніі раздзелены, цяпер іх яшчэ раз хочуць перадзяліць, залежна ад сілы новых групіровак. Гэта раней, ці пазьней давядзе да вайны. Толькі работніцка-сялянская ўлада на ўсім сьвеце збавіць людзкасьць ад гэтых катастроф!

# У Польшчы.

## Дабаўкі да пэнсіяў паном афіцэрам.

Рада міністраў (прасьцей:—марш. Пілсудскі) пастанавіла зрабіць дадаткі да пэнсіяў паном афіцэрам, пачынаючы ад сяржантаў аж да самаго п. Генаральнага інспэктара арміі, якім мае быць сам марш. Пілсудскі.

Дабаўкі дадзены за „службовыя абавязкі“, прычым, калі адна асоба спаўняе два, ці больш абавязкаў, дык і дадаткаў мае некалькі... Напрыклад, для п. Ген. Інспэктара назначана найбольшы дадатак, аж 5.000 пунктаў (кожны пункт роўны 43 гр.), для ваеннага міністра — 2.500 пункт. А дзеля таго, што марш. Пілсудскі мае спаўняць абавязкі абодвух—як Інспэктара так і міністра, — дык для яго Рада Міністраў назначыла фактычна дабаўку ў 7.500 пунктаў. Далей, — корпусныя камандзіры маюць 1.500 і 1.200 п., дывізіённыя—900 п. і так далей.

Трэба адзначыць, што нядаўна ад усіх урадоўцаў адняли дзеля ашчаднасьці значны процант хі пэнсіяў, а вучыцялёў ды прафэсароў усялякіх школаў дык папросту аграбілі, пазбавіўшы часам больш як паловы пэнсіі. А вось цяпер паном афіцэрам, у якіх марш. Пілсудскі нядаўна сцьвярдзіў „найдаражэйшую кроў“ у Польшчы, знайшліся грошы на вялізарныя дадаткі. Цікаўна яшчэ, што ў часе маёвых баёў „найдаражэйшая кроў“ была наагул знойдзена ў жаўнераў, разам з афіцэрамі. А вось цяпер найдаражэйшымі—для дзяржаўнага скарбу—зьяўляюцца паны генаралы, пасьля ідуць п. п. палкоўнікі, па іх капітаны і т. д. А аб жаўнерах, якія, праўду кажучы, у траўні найбольш лілі сваю кроў, — для перамогі марш. Пілсудскага і яго абозу,—цяпер пераможцы неяк забыліся, бо аб дабаўках для жаўнераў пакуль што зусім ня чуваць.

## Старажы парадку і моральнасьці.

У „Голасе Праўды“ былы важны чыноўнік міністэрства раскрыў праўду аб парадках, якія пануюць у варшаўскай угалоўнай паліцыі. „Праца“ варшаўскай паліцыі ідзе ў хэўры і паразуменьні з зладзеямі. Большасьць служачых паліцыі набрана з зладзеяў, дык працуе зусім не на карысьць пацярпеўшых. Крадзеныя рэчы выкупаюцца ў зладзеяў, калі абакрадзены дасьць „выкуп“ паліцыянтам. Часта-густа паліцыя шантажуе жыдоўскіх гандляроў, і г. д. і г. д.

Гэтак—ў Варшаве. А ў іншых местах—ці-ж інакш... А што-ж ужо казаць пра мястэчкі ды вёску, дзе мяйсцовы паліцыянт—цар—і бог.

## Радіо—для барацьбы з бандытамі і небандытамі на крэсах.

Міністар чыгункі мае пабудаваць на вузлавых станцыях „ўсходніх ваяводзтваў“ радіо-апараты (тэлеграфы бяз дротаў), каб сыгналізаваць аб нападах бандытаў.

# Заграніцай.

## Вялікія нямецкія манэўры ў Усходняй Прусіі.

На прышлым тыдні пачынаюцца вялікія манэўры ўсіх ваенных часьцей Усходняй Прусіі, разам з „цывільнымі часьцямі арміі“, якія таксама неафіцыяльна прымуць учасьце ў манэўрах. Манэўры, як цьвердзіць польская прэса, маюць мэтай „абмацаць“ добра польскую граніцу — на выпадак вайны з Польшчай, да якой ужо быццам зусім яўна рыхтуюцца немцы...

## Францыя пасрэднікам між ССРР і Румыніяй.

Румынскі ўрад зьвярнуўся да Францыі, каб яе ўрад выступіў пасрэднікам між імі і ўрадам ССРР—у справе ліквідацыі Бэсарабскага спору.

На крокі францускага ўраду ўрад ССРР адказаў, што нічога ня мае проці паразуменьня з Румыніяй, але толькі—на падставе свайго папярэдняга рашэньня бэсарабскага пытаньня.—Як ведама, радавы ўрад, згодна з сваімі агульнымі прынцыпамі, дамагаецца ўсёнароднага галасаваньня (плебісцыту) ў Бэсарабіі ў справе яе дзяржаўнага самаазначэньня. Сам народ мусіць мець права вырашыць, куды ён хоча далучыцца: ці да Румыніі ці да ССРР.

## Англія дрыжыць за Індыю...

Англійскія газэты зьмяшчаюць алярмуючыя артыкулы аб тэй пагрозе, якая рыхтуецца для англійскага панаваньня ў Індыі з боку ССРР. Больш усяго баіцца Англія разьвіцьця паветранага флёту ССРР, які зрабіў бы няістнуючымі ўсе прыродныя і штучна-ўмацованныя крэпасьцямі граніцы, што бароняць доступу да Індыі. Газэта сцьвярджае, што ССРР мае ў сучасны мамэнт больш як 2.000 аэрапляпаў, ды 90.000 асоб у аддзелах авіацыі. У ССРР істнуе аж 12 авіацыйных школаў.

## Адступленьне народных арміяў у Кітаі.

З японскіх крыніц паведамляюць, быццам народныя арміі ачысьцілі горны праход Нанкоў і адступілі на паўночны захад. Затое—у паўдзённым Кітаі рэвалюцыйныя арміі б'юць англійскага найміта Ву-Пэй-Фу.

# Паход проці „Грамады“.

Нішто так ня страшна буржуазіі, як арганізацыя сялян і работніяаў дзеля абароны сваіх інтарэсаў.

Кожная пераможная забастоўка ў горадзе абмяжовывае грабёж; пры кожным масавым выступленьні вёскі абшарнікі мусяць рабіць уступкі.

Ім гэта ведама, як і нам. Дык яны абвясьцілі вайну ўсім арганізацыям, задачай якіх ёсьць аб'яднаньне працоўных дзеля барацьбы за сацыяльныя і нацыянальныя правы.

У Заходняй Беларусі з ростам „Белар. Сялян.-Работ. Грамады“ крапчэюць і перасьледаваньні яе. Мітынгі разганяюць, людзей тэррорызуюць. Мясцовыя старосты і іншае адміністрацыйнае начальства (а гэта-ж тутэйшыя зубры — абшарнікі!) забаронай выступленьняў паслоў з „Грамады“ беспасрэдна перад мітынгам (дазволеным раней) сьвядома правакуюць маланарод да выбухаў, каб на груньце гэтага зьнішчыць ды рух.

Пушчаны ў ход найбольш нягодныя спосабы: хмары прадажных людзей круцяцца каля нас, пагражаюць кожнаму грамадзісту вастрогам, стараюцца выклікаць страх. Да гэтых зьявішч трэба аднясьці і ўзнаўленьне рассылкі на вёску дэфэнзыўнай газэты ў беларускай мове „Беларускага Слова“. Працуе ў ёй, як ведама, Павлюкевіч і кумпанія.

Мы лічым саўсім лішнім спорыць з дэфэнзывай, або праставаць нягодную ману яе ў гэнай газэце ці то аб паасобных справах, ці то аб асобах нашых старых і выпрабаваных барацьбітаў. Спор тутка—выключаны. Зварачаем толькі ўвагу тых сялян, хто мо першы раз атрымае „Беларускае Слова“, на тое, якая гэта газэта і хто яе выдае.

Буржуазія—ня сьпіць. Нельга драмаць і нам!

Нашым адказам на ўвесь гэты паход проці нас павінна быць **узмацаваньне працы.**

Ніводзін селянін, калі йдзе змаганьне з яго арганізацыяй, — не павінен прыглядацца збоку. Больш адвагі!..

„Грамада“—партыя **легальная**. Мы хочам аб'яднаць усе сьвядомыя элемэнты места і вёскі для **легальнай** абароны сваіх інтарэсаў. Мы ведаем, што на шлях барацьбы будуць змушаны стаць масы сялян і работнікаў, бо жыць мы ўсе хочам, а жыць нам не даюць. Толькі шырокім учасьцем у арганізацыі, толькі змаганьнем мы даб'емся спыненьня гвалтаў над намі паноў і дэфэнзывы і самаволі іх.

Дэфэнзыва брэша, быццам нас нехта аплачывае. Мы жывем з складак сяброў, лічба якіх дасягае ўжо 10.000 душ, і з грошаў нашых паслоў у Сойме. З дробных ахвяр складаюцца значныя сумы. За гэта партыя працуе, за гэта выдаецца газэта. І гэта—яркі прыклад таго, што можа рабіць арганізацыя.

Грамадзяне! Наша сіла — у нашай еднасьці і арганізованасьці. Дык ня дайце разьбіць сваей арганізацыі, ня бойцеся пагроз дэфэнзывы і яе наймітаў. Крэпка дзяржыцеся за „Грамаду“ і папаўняйце яе рады новымі сіламі.

**На падставе загаду Міністэрства Асьветы заняткі ў ва-ўсіх школах (народных і сярэдніх), а таму й у Віл. Бел. Гімназіі, пачнуцца 15 верасьня. Экзамены і пераэкзаменоўкі адбудуцца 13 і 14 таго-ж месяца.**

*Дырэкцыя.*

# Справа 32-х.

У канцы траўня 1925 г. былі заарыштаваны жыхары в. Дудзічы, Сьвіслацкай гм., Ваўкавыскага пав., Міхал Шэлест і Аляксей Крупчык, „западозраныя“ ў нападзе на цягнік каля станцыі Нарэўкі ў ноч з 29 на 30 траўня 1925 году. „Затрымалі“, заарыштавалі і адаслалі ў Нарэўку, а стуль у м. Масева, Бельскага пав. Там віны не знайшлі і адаслалі ў Ваўкавыскую турму.—Фактычнай-жа прычынай арышту было тое, што гэтыя сяляне выпісвалі беларускую газэту і клапаціліся аб беларускую школу. Сьвіслацкая паліцыя і надумалася, відаць, пазбыцца дзейных людзей, ды свайго й дапяла: віны ніякай не ўстанавілі, а ўсё-ж такі затрымалі людзей у вастрозе, сфабрыкаваўшы палітычную справу.

7 і 8 ліпня 1925 г. былі заарыштаваны жыхары в. Клепачы, Сьвісл. гм. і адасланы на пастарунак, а там пачалося „баданьне“. Асабліва зьверска катавалі сямнадцацігадовага Аляксандра Лыча: спачатку білі яго кулакамі па шыі, галаве і твару ў працягу некалькіх гадзін, робячы перарывы толькі дзеля ўласнага адпачынку; пасьля скавалі рукі, залажылі іх за калені і, працягнуўшы кій паміж локці і калені, білі кіем у пяты і па ікрах ног, паўтараючы гэта некалькі разоў у працягу ночы. Пасьля трэбавалі падпісаць пратакол, што загадзя прыгатавала паліцыя.—Той адмовіўся, дык „лепшымі“ спосабамі катавалі: у скаванага і ляжачага на падлозе выймалі палавыя часьці цела, адцягвалі і білі па іх; а пасьля лілі ў нос брудныя памыі.

Гэтае сама перанясьлі аднасяльчане Лыча — Раман Юшко і Аляксей і Антон Кавальчукі — з дадаткам „спэцыяльных“ спосабаў“: білі іх па плячох яшчэ пружынаю, абцягненаю гумаю (рэзінаю), а Юшку некалькі разоў паднімалі на аршыны два ад падлогі і кідалі плячыма аб зямлю.

Пасьля гэтакіх „апэрацыяў“ катаваныя трацілі прытомнасьць, і тады змушалі іх падпісаць загадзя прыгатаваны пратакол — зусім ня згодны з праўдай, дзе фігуравалі зусім няведамыя арыштаваным людзі і закідалася прыналежнасьць да Кам. Партыі Заходняй Беларусі.

9 ліпня 25 г. — па даносу солтыса за асабістыя разрахункі—быў арыштаваны жыхар в. Казейкі — Міхал Жук, а 11 ліпня арыштавалі аднасяльчан Жука, Платона Шэлеста і Івана Талканіцу, а таксама Ільлю Талканіцу з в. Сакі.—Усіх іх білі і катавалі вышэй апісаным спосабам, жадаючы падпісаньня сфабрыкованага пратаколу.

У пачатку верасьня 25 г. паліцыя йзноў рашыла „падабраць“ непажаданых ёй сялян, якія выпісвалі ды чыталі беларускія газэты, ды стараліся адчыніць беларускую школу. З гэтай мэтай арыштавала яна паўвар'ята ад самага маленства Аляксандра Трахіміка з в. Дабраволя. Скатаваўшы і спаіўшы гарэлкай гэтага паўвар'ята, паліцыя змусіла яго падпісаць зусім ня ведамы яму пратакол, дзе фігуравалі непажаданыя паліцыі прозьвішчы і на іх даносы.

Маючы гэты „дакумант“, паліцыя арыштавала Івана Барэля, Мікіту Шмыга, Тараса Лосько і др. з в. Дабраволя. Арыштованых так катавалі, што Барэль, ня бачучы канца мукам, рашыў пакончыць з сабою і перарэзаў сабе горла.—Гэтымі спосабамі і мукамі прымушалі даваць фальшывыя паказаньні і падпісваць фальшывыя пратаколы.

1 кастрычніка 25 г. арыштавалі сялян з в. Дабраволя Івана Свэйку, Паўла Палотчыка, а з асады „Песца“—Марка Грыгарука і Антона Малеша. Б'ючы і катуючы іх і трэбуючы прызнаньня ў прыналежнасьці да камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, паліцыянты некаторым арыштаваным гаварылі: „Вы галасавалі за „шаснастку“ і хочаце беларускай школы, дык вось вам — зробім так, што ня будзеце больш галасаваць і хацець беларускай школы; зробім з вамі, што захочам“!

2 кастрычніка 25 г. арыштавалі Івана Качку з в. Качкі.

Характэрна, што паліцыя скатаваных змушала рабіць даносы на нялюбых паліцыі—сьвядомых беларусаў, залічаючы іх да камуністаў.

Гэтак „пачалася“ справа. Арыштаваных: Круціка, Шэлеста, Лыча, Юшку, Жука, Толканіцу, Папотчыка, Лоську, Малеша, Шмыгу і Барэля трымаюць у Ваўкавыскім вастрозе.

Далей у лістападзе 25 г. сьвіслацкая паліцыя арыштавала сялян з в. „Кватэры“: Валентына Нікановіча, Сьцяпана Гурскага, Сьцяпана Кандрацюка, Мацея Флюрыка, Якіма Масюка, Міхала Зарэцкага, Уладзіміра Гата, Івана Харука і Мікалая Зарэцкага, а таксама з в. Сыраежкі Максіма Карача.—Усіх іх катавалі і змушалі сілаю падпісаць фальшывыя пратаколы.

У лістападзе-ж таго-ж году сялян в. Ятаўцы, Сьвісл. гм., Сымона Ляўчука, Андрэя Зарэцкага і Міхала Кудзелю арыштавалі ў Баранавіцкім павеце, дзе тыя шукалі работы. Арышваваўшы, зьбілі і адаслалі ў Ваўкавыск, а тут палітычная паліцыя вышайапісанымі спосабамі „баданьня“ змусіла сказаць няпраўду на тых, што сядзяць у вастрозе.

Тады-ж арыштавалі беларускага вучыцеля Панаса Грыца з в. Пацэвічы, Пескаўскай гм. І яго далучылі да гэтай справы.

Пабітыя прасілі, каб прыслалі доктара аглядзець іх, але прыслалі доктара толькі праз месяц, калі раны пагаіліся!

Сярод катаў выдзяляліся: камандант зэльвянскай паліцыі Чэслаў Махура; старшы „пшодовнік“ палітычнай паліцыі ў Ваўкавыску Двілінскі; старшы „пшодовнік“ палітычнай паліцыі ў Вільні Малькевіч; паліцыянт Сьвіслацкага пастарунку Карчэўскі; з 9 батальёну К. О. П. францішак Вех і пар. 9 батальёну Казімер Сьледзіньскі.

І так стварылася „палітычная справа 32-х“, скіраваная проці тых, што дабіваліся беларускае школы; закідаюць ім камунізм, абвінавачваюць паводле § 102 ч. II К. К.

Суд над імі мае адбыцца сёлета 28 верасьня.

Гожа адзначыць, што ў падобнай-жа справе групы сялян Пружанскага пав. суд у Беластоку надовячы ўсіх абвінавачаных у „замаху проці Польшчы“ апраўдаў. Ці апраўдаюць ваўкавыскіх сялян?...

# З жыцьця „Грамады“.

## НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

154. 2./VIII. у в. **Лукі**, Жухавіцкае гм., Стаўпецкага пав.
155. 1./VIII. у в. **Серадава**, Косаўскае гм., Косаўскага пав.
156. 8./VIII. у в. **Кулеўшчына**, Гудзевіцкае гм., Горадзенскага пав.
157. 9./VIII. у в. **Аханава**, Дзятлаўскае гм., Навградзкага пав.
158. 8./VIII. у калён. **Белявічы**, Гарадоцкае гм., Беластоцкага пав.
159. 8./VIII. у м-ку **Карэлічы**, Карэліцкае гм., Наваградзкага пав.
160. 8./VIII. у в. **Хвайняны**, Скідэльскае гміны, Горадзенскага пав.
161. 8./VIII. у в. **Еськаўцы**, Ражанскае гм., Косаўскага пав.
162. 8./VIII. у в. **Куляны**, Ражанскае гм., Косаўскага пав.
163. 8./VIII. у в. **Бярозаўцы**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.
164. 8./VIII. у в. **Казло**, Індурскае гм., Горадзенскага пав.
165. 8./VIII. у в. **Хайміні**, Малецкае гм., Пружанскага пав.
166. 9./VIII. у в. **Акунёва**, Стэфанпольскае гм., Дзісенскага пав.
167. 2./VIII. у в. **Ханевічы**, Скідэльскае гм., Горадзенскага пав.
168. 9./VIII. у в. **Мурашчына**, Стэфанпольскае гм., Дзісенскага пав.
169. 8./VIII. у в. **Яршэвічы**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.
170. 7./VIII. у в. **Брусы**, Мядзельскае гм., Пастаўскага пав.
171. 7./VIII. у в. **Ліхасельцы**, Вальнянскае гм., Баранавіцкага пав.
172. 7./VIII у в. **Ярашава**, Маўчадзкае гм., Баранавіцкага пав.
173. 4./VIII. у в. **Слабодка**, Мірскае гм., Стаўпецкага пав.
174. 8./VIII. у в. **Малюшычы**, Райцанскае гм., Наваградзкага пав.
175. 8./VIII. у в. **Рэпічы**, Валянскае гм., Баранавіцкага пав.
176. 28./VIII. у в. **Алекшыцы**, Мала-Бераставіцкае гм., Горадзенскага пав.
177. 7./VIII. у м-ку **Варанава**, Лідзкага павету.
178. 8./VIII. у в. **Мастаўляны**, Голынскае гм., Горадзенскага пав.
179. 8./VIII. у в. **Голынь**, Любчанскае гм., Наваградзкага пав.
180. 8./VIII. у в. **Загор'е**, Любчанскае гм., Наваградзкага пав.
181. 8./VIII. у **Забалоцьце**, Карэліцкае гм., Наваградзкага пав.
182. 9./VIII. у в. **Масалянах**, В.-Есьмантаўскае гм., Горадзенскага пав.
183. 10./VIII. у в. **Маросьмі**, Лебядзеўскае гм., Маладэчанскага пав.
184. 8./VIII. у в. **Лаша**, Лашскае гм., Горадзенскага пав.
185. 12./VIII. у в. **Сьцічанс**, Кіпнішскае гм., Лідзкага пав.
186. 8./VIII. у в. **Доўга**, Сьвятавольскае гм., Косаўскага пав.
187. 8./VIII. у в. **Ендрыхоўцы**, Роскае гм., Ваўкавыскага пав.
188. 8./VIII. у в. **Вяхотніца**, Роскае гм., Ваўкавыскага пав.
189. 1./VIII. у в. **Скорычы**, Ярэміцкае гм., Стаўпецкага пав.
190. 3./VIII. у в. **Мутвіца**, Марачанскае гм., Пінскага пав.
191. 9./VIII. у в. **Локніца**, Марачанскае гм., Пінскага пав.
192. 26./VII. у в. **Заброзьдзе**, Пастаўскае гм., Пастаўскага пав.
193. 11./VIII. у в. **Мельхановічы**, Чамерскае гм., Слонімскага пав.
194. 8./VIII. у в. **Крапіўнікі**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав.
195. 12./VIII. у в. **Шулякі**, Кастрэвіцкае гм., Слонімскага пав.
196. 12./VIII. у в. **Слабада**, Іжанскай гм., Вялейскага пав.
197. 7./VIII. у в. **Жычына**, Равятыцкай гм., Пружанскага пав.
198. 8./VIII. у в. **Дамашы**, Лебядзеўскае гм., Маладэчанскага пав.
199. 13./VIII. у в. **Галенчына**, Язьненскае гм. Дзісьненскага пав.
200. 13./VIII. у в. **Забалоцьце**, Мікалаеўскае гм., Дзісьненскага пав.

### Мітынг Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

(в. Ячны, Дамбраўскай гм., Сакольскага пав.).

2./VIII. адбыўся тут мітынг пасла Валошына. Народу было больш як за 1.000 асоб. Хаця папы сумысьля цяглулі службу ў царкве да 4 гадз. і на пропаведзі агітавалі, каб ніхто ня йшоў на веча, —сяляне не паслухалі. Пасол гаварыў аб сучасным палітычным палажэньні; часта яго прамову перарывалі воплескі. Пад канец пасыпаліся кветкі. У прынятай рэзалюцыі сяляне дамагаюцца: амністыі для ўсіх палітычных вязьняў, нацыянальнай раўнапраўнасьці і права на самаазначэньне, зямлі бяз выкупу, работніцкага кантролю над фабрыкамі, дапамогі ўсім безработным, скасаваньня асадніцтва і ўвядзеньня работ.-сялян. улады.

Адзін з учасьнікаў.

## Летняя ноч у вёсцы.

Сабака гаўкнуў раз, другі...
Ўдалі замёрла з плачам рэха.
Пялёнка жальбы і тугі
Спавіла сэрца,—не дасьмеху!
Ахутаў вёску цяглы сон,
Снуе, прадзе ніткі драмота.
І толькі ў сьвята песьні тон
Парушыць ціш, спакой, самоту.
Сьмяюцца зоркі, зіхацяць
З высі, з лазурнай неба далі,
А ў вёсцы сон, у вёсцы сьпяць,
І біцца сэрцы перасталі.
Тыкеля месяц-вартаўнік,
Зіяе вечна без клапотаў,—
Жартуе з хмаркай, чараўнік,
І спаць яму няма ахвоты!
З Заходу вецер спудзіць хмар,
Ён плюне небу хмарай ў вочы,
І страшна ў вёсцы тады уночы
І злосны неба ўночы твар.

Зарудзічы, 2/VII 1926 г.

**Лявон Чачотка.**

# ХРОНІКА.

**Канфэрэнцыя ў справе шкальніцтва.** Канфэрэнцыя прадстаўнікоў Т-ва Беларускае Школы, Літоўскага Культурна Асьветнага Т-ва „Rytas“, Цэнтральнага Жыдоўскага Асьветнага К-ту і Аб'яднаньня жыдоўскіх школ Віленшчыны—з прадстаўнікамі польскага грамадзянства, што прыхільна адносяцца да патрэбаў нацыянальнасьцяў, засяляючых Віленшчыну, адбылася 26 жніўня с. г. у салі Літоўскага Клюбу.

Спасярод больш як трыдцацёх запрошаных палякоў зьявіліся толькі... пяць: адвакат В. Абрамовіч, рэдактар „Przeglądu Wileńskiego“ Л. Абрамовіч, адна вучыцелька, пасол Хомінскі ды пан Годвод. Рэшта „не маглі“, або „пахварэлі“. — Відаць, зусім яны здаволены сучасным станам шкальніцтва няпольскіх нацыянальнасьцяў...

На канфэрэнцыі прадстаўнікі ўсіх няпольскіх нацыянальнасьцяў абрысавалі жудасны стан свайго шкальніцтва і тыя паліцэйскія спосабы, якімі ўлада стараецца задушыць і ўжо ў значнай меры задушыла няпольскія школы.—Плянавасьць і аднолькавасьць спосабаў рэпрэсіяў паказуе, што кіраўніцтва йдзе „згары“—з Варшавы.

Грам. Астроўскі, прадстаўнік ад беларусаў, далажыў аб ліквідацыі польскай уладай беларускіх пачатковых школ.

Прысутныя палякі давалі „лекі“ на гэтыя балячкі.—П. адвакат Абрамовіч, каб палепшыць гэты стан, радзіў зыйсьціся бліжэй з польскімі дэмакратамі і стварыць адумысны К-т усіх нацыянальнасьцяў — разам з палякамі, які-б заняўся школьнымі справамі і г. д.; але максімум можа быць здабыты, калі наш край дастане аўтаномію.

Вучыцелька—полька і пасол Хамінскі згаджаліся з сваім папярэднікам, прычым пасол Хамінскі запрапанаваў азнаёміць польскае грамадзянства з няпольскім шкальніцтвам у ягоным органе „Kurjer Wileński“, у якім, як ведама, ужо „асьведамляе“ палякоў аб беларусах... Павлюкевіч!

Пан Годвод (польскі сацыялісты) суліў супрацоўніцтва пэпэсаў з „меншасьцямі“ ў школьнай справе, калі тыя, вядучы школьную прапаганду за няпольскія школы, будуць змагацца і за вызваленьне польскай школы з-пад панаваньня клерыкалізму і рэакцыі.

Канфэрэнцыя закончылася бяз ніякіх конкрэтных рэзалюцыяў, пакінуўшы ўражаньне, што шырэйшае польскае грамадзянства ня толькі не жадае зьмены і папраўы стану ня польскага шкальніцтва, ды зьмены адносінаў улады да нацыянальных меншасьцяў, але навет баяцца даведацца праўду аб нацыянальным уціску ў Польшчы.

**Палітыканства віленскага куратарыуму.** Віленскі куратар, ведамы ўжо сваімі варожымі адносінамі да беларусаў, забараніў віленскай беларускай гімназіі даць сваю актовую салю пад абход

# Оля і Коля.

(Фэльетон).

У нашым доме на вуліцы № . . жыў стары расейскі генарал Николай Івановіч В. з жонкай Ольгай Александровнай, такое самае старасьці... Дзяцей сваіх яны патрацілі ў часе завірухі і навет ужо забыліся аб іх.

Жылі адны. Генарал меў нейдзе службу, ці то стоража, ці можа й вышага надзорцы, жонка ад суму выхоўвала сабачку.

Нішто нікому з акружаючых генарала, ды і самой пачотнай дружыне не напаміналя аб „добром, старом времени“, калі генарал... і г. д. Навет забыліся як па бацьку іх вялічаюць. Выпадкова мы выкапалі з архіваў. Называлі яны адзін аднаго—Оля і Коля і так і ўсе называлі іх. А жартаўнікі ў паўголаса, а то і моцна, схаваўшыся за сьцяну, сьпявалі песенку:

Оля і Коля
Гулялі ў поле

Толькі тады, у інтымныя мінуты, Оля, гледзячы мужу ў вочы, неяк патаемна пытала:

— А помнишь Коля?..

— „Да, были и мы рысаками когда-то“—адкажа генарал і цяжка ўздыхне.

Але й гэтыя мінуты прыходзілі рэдка. Звычайна генарал прыходзіў дамоў зморaны, змучаны, і пападаў... у лазьню да жонкі. Яна заўсёды знойдзе чым колечы памыць яго...

Ох, гэтыя лазьні!.. За сьценкаю ня можна было ўседзіць, слухаючы. Пакуль усе костачкі не перамые беднаму генаралу—не адступіць.

А ён пакорны, заўсёды падстаўляў нізка галаву сваей злой багіне і... маўчаў.

У адзін прыгожы дзень Коля яшчэ ў сенях неяк моцна, здорава нязвычайна неяк ступаў і чыхаў... І дзьверы куды мацней адчыніў...

Оля прыгатовілася па звычаю стрэціць мужа, але ён глянуў на яе такім арліным паглядам, што тая адступіла назад.

— Коленька!?.. прамовіла...

— Оля, дорогая, милая... вот... І ён кінуў на стол цэлую пачку газэтаў, розных, розных і рускіх і польскіх...

Оля, як успружаная, кінулася дастала і... анямела. Усюды буйнымі, як валы, літэрамі стаяла:

Пераварот у Маскве!..

„На вуліцах разьня!..

„Войскі ўзбунтаваліся!..

— Коля! Колечка!.. зараўла не сваім голасам Оля. Боже мой, Боже!.. Неужели? Царица небесная — вняла нашим просьбам. Толькі гэта выкрыквала адурэлая ад радасьці Оля і тут-жа кінулась на шыю мужу і—павісла...

Абое плакалі, дрыжачы ўсім целам, упіваючыся губамі адзін у другога і міла, міла гледзячы адзін другому ў вочы...

Оля апамятавалася раней...

— Так едем!.. Коля!.. Николай Иванович!?

— В Москву, в Москву... пракрычаў генарал па Чэхаву, а потым адняў рукі ад сваей багіні і стаўшы, як селянін на малітву,—пачаў:

„Москва, как много в этом звуке
Для сердца русскаго слилось...

— Коля! а, Коля! Николай Иванович. Церабіла генаральша ачадзеўшага мужа... У нас есть там свои!.. В Рыбинске ведь внучатый-то, Петя... Ведь ты же говорил—в подпольной где-то...

„Москва, я думал о тебе... дэклямаваў далей генарал...

— Коля!.. Остепенись-же ты!.. Нужно подумать?.. Так Николай Николаевич?! Да?.. Нужно достать портрет... Есть у нас из своих кто нибудь в Париже?.. Ах, Петр Иванович...

Не вядома колькі прастаялі-б генарал з жонкай у такіх позах, каб раптам на сходах не затрашчала і праз мінуту ў дзьверы проста ўламаліся старыя таксама палкоўнік Калішкін з жонкай...

— Ваше Превосходительсто!.. Поздравляем!.. Христос воскрес. І абое палезьлі цалавацца да генарала...

— Ох, вы-же нарядились—сказала Оля...

— Как-же!.. Для праздника!..

Дзьверы ізноў затрашчалі і амаль з тымі-ж словамі ўляцеў былы „действительный статский советник“ Перепелкин. За ім... былы начальнік судзебнай палаты Иванов з худымі, старымі і даўжэннымі сёстрамі, потым начальнік акцызу, цяпер дворнік, з дзяцьмі...

Усе адзтеыя лепш, навет начальнік палаты намазаў фіксутуарам вусы...

Ах, што гэта былі за размовы...

---

Тры дні хадзілі ўсе, як учадзеўшы... Зьбіралі ўсе газэткі, трацілі на іх апошнія грошы, лавілі па месьце ўсе плёткі, што сказаў такі і такі палкоўнік, што чутно ад Николая Николаевича... Гаварылі навет, што ўжо нехта прыяжджаў тайна ў Вільню. І службу папакідалі...

Аж толькі на трэцюю ноч генарал, змучаны ад радасьці, урэшце заснуў!..

Генаралу сьнілася, што ён памёр і што нейкім дзівам ён апынуўся ў раі ля самага Бога... Ды яшчэ дзіўней... Бог-жа быў падобны на таго, што малюць на абразох... Ён быў у генаральскай форме, сухі, з высокім чалом і з ангельскаю сіваю бародкаю... Ля яго ангелы, такія прыгожыя, слаўныя, бліскучыя і ўсё ў ваеннай форме...

Ізноў дзіва — паміж ангелаў ён пазнаваў сваіх калісь даўнейшых, даўнейшых, навет памёршых знаёёмых...

Ён прачнуўся, і вочы яго ўперліся ў патрэт... які ён сніў... Ах, Николай Николаевич!..

— Оля, газетка есть?! Але адказу ня было... Толькі праз хвіліну ў хату ўбегла зноў звычайная, хмурая, злая Оля і сунула мужу ў нос „За Свободу“ і „Rzeczpospolitu“...

— На, кушай!.. сказала... Подумаешь, выдумали... Угарели... Я так и знала... А еще старый, генерал... Вот и неправда!.. А он-то... он-то... генерал, Его Превосходительство...

— Оля?... Да что—ты?! Не я-же один?

— Да вы все потеряли головы... А еще мущины...

І яна таўкнула нагою стаячага тут-жа сабачку...

**Куралес.**

чыста культурнага юбілею беларускае прэсы, які мае адбыцца 19 верасьня—у нядзелю, значыцца ў часе вольным ад заняткаў у гімназіі.

Вось яшчэ адзін доказ таго, што зьмена цэнтральнага ўраду ў Варшаве зусім не зьмяніла палітычнага курсу адміністрацыі на мясцох, якая пастараму займае яўна варожую пазіцыю ў адносінах да „меншасьцяў"...

**Заняткі ў Беларус. Гімназіі пачнуцца 15 верасьня.** Дырэкцыя Віленскай Беларускай Гімназіі паведамляе, што заняткі ў гімназіі згодна із распараджэньнем Мін. Асьветы з дня 25 жніўня с. г. пачнуцца 15 верасьня.

Тое-ж і ў-ва ўсіх іншых школах.

**Перасьцярога эміграантам у Францыю.** Францускі ўрад абʼяднанае буржуазіі выдаў чыста драконаўскія законы аб работніках-эміграантах, якія едуць дзеля хлеба ў „дэмакратычную" Францыю. Законы гэтыя аддаюць і нашых эміграантаў у праўдзівую паншчыну ў руках розных прадпрыемцаў.

Справа ў тым, што эміграант, які дзеля нялюдзкіх варункаў працы кінуў свайго „хлебадаўцу" да канца кантракту, ня можа ўжо нідзе дастаць работы. Дык выходзе, што, падпісываючы кантракты на выезд, людзі як-быццам самахоць запрадаюцца ў рабства, з якога ўжо няма выхаду.

Вельмі цяжкім абмежаваньнем правоў эміграантаў зьяўляецца і тое, што ім забаронена зьмяняць свой фах. Гэтак, хто запісаны ў францускай „карце пабыту", як, прыкладам, сталяр, ці бондар,—той ніякай іншай працай займацца ўжо ня мае права.

Сьцеражыцеся, работнікі й сяляне, гэнага францускага хлеба!

**Афіцыяльны курс грошы на 27-га жніўня.** Даляр—8 зл. 97 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

24. VIII на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,97. Зал. руб. 4,63. Чырвонец 44.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

### Запярэчаньне.

STAROSTWO STOŁPECKIE
Nr. 19201/IX

Stołpce, dn. 14 sierpnia 1926 r.

Do Redakcji czasop. „Narodnaja Sprawa"
w Wilnie, Wileńska 12, m. 6.

W związku z zamieszczeniem na stronicy 4-ej Nr. 4-go czasopisma „Narodnaja Sprawa" z dn. 4 b. m. 2-ch notatek:

1) w sprawie niewydawania przez wójta gminy Stołpeckiej Pietraszewskiego pokwitowań z odbioru pobranych przez sołtysów sum podatków, wskutek czego żądano ponownego wpłacenia tychże podatków i

2) w sprawie przywłaszczenia przez tego Pietraszewskiego 10.000 zł. z sum gminnych i niepociągnięcia jego za to do odpowiedzialności karnej.

Proszę o zamieszczenie w tymże czasopismie, w mysl przepisów art. 21 dekretu z dnia 7/II 1919 r. o przepisach prasowych, sprostowań następujących:

1) Pietraszewski, zabierając od sołtysów pobrane przez nich podatki, dawał niektórym z nich pokwitowania, nie z kwitarjusza gminy, a na kawałkach papieru—prywatne kwitki, posiadanie których, sołtysi ci z namowy Pietraszewskiego ukrywali. Wypadek ten powtórnego pobierania podatków nie spowodował, ponieważ sołtysi wszystkie pobierane podatki wpisują i kwitują w specjalnych książeczkach, w które od r. 1922-go zaopatrywani wszyscy płatnicy podatków w pow. Stołpeckim. Wypadków powtórnego pobierania od kogokolwiek podatków w gminie Stołpeckiej nie stwierdzono.

2) Przywłaszczenie przez Pietraszewskiego zabieranej w powyższy sposób od sołtysów gotówki ujawnione zostało w dniu 6 lipca r. b. i do odpowiedzialności karnej za to został on pociągnięty pismem z dnia 12 lipca r. b. Nr. 2990, przesłanem do p. Sędziego Sledczego 1-go rewiru pow. Stołpeckiego. Przywłaszczenie sięgało sumy nie 10 000 zł. lecz 6.000, z których Pietraszewski do obecnego czasu 2.000 zł. zwrócił. Od czasu ujawnienia przestępstwa Pietraszewski od wykonywania obowiązków wójta został usunięty.

(Подпіс нявыразны).

Starosta.

## Карэспандэнцыі.

### Паліцыя не прызнае законаў!

(Лідзкі павет).

Да даверанай асобы Цэнтральнага Сэкрэтарыяту—З. Сарокі — зьявіўся 4 жніўня камэндант пастэрунку Дакудава і запытаўся:

„Што Сарока атрымаў з пошты"? Адказ быў: пісьмо з „Грамады". Паліцыянт вытарашчыў спачатку вочы, а пасьля адабраў у селяніна блянкі дэклярацый і запросін на сходы. Выходзячы заявіў, што за ўсялякія сходы „zapakuję do więzienia", Камэндант пастэрунку быў з карабінам.

Пыталіся пана старосты Лідзкага павету, ці вядомы яму самавольны і беззаконны паступак паліцыянта ды калі будуць зьвернены забраныя ў селяніна блянкі.

### Добры дзень і бывайце здаровы.

(Слонімшчына).

Сяляне вёскі Варонічы, Міжэвіцкае гм., Слонімскага пав., едучы па сена на пожню ў Добры Бор, сустрэліся з нейкім панком. Пасля некалькіх слоў гутаркі панок пачаў пытацца: ці ёсьць у іхняй вёсцы камітэт ППС, а калі сяляне адказалі, што няма—размалёўваў ён працу й мэты ППС. Гаварыў, што па ўсім вёскам абшару ад Жырава да Д.-Бору (Слонім. пав.) ёсьць камітэты ППС, асабліва паказаў на вёскі Русакова ды Сьцянявічы Шылавіцкае гм. Сьпярша слухалі яго сяляне, як добра бае, ды ведаючы аб здрадзе гэтай партыі адказалі: калі-б хто з ППС зьявіўся у іх вёску, дык мятлою прагналі-б яго сяляне і, што сяляне в. Варонічы вітаюць Беларускую С.-Р. Грамаду, у якую ахвотна запісваюцца. Пачуўшы гэта, „паўпанак" пакінуў гаварыць, як вады ў рот набраўшы. Жадаем, каб гэтак адказвалі пэпэсам усе нашы сяляне. А калі праўда, што в. Русакова і Сьцянявічы маюць камітэты ППС, дык напэўна скора яны пераканаюцца аб сваей абмылцы **Б. М.**

### Гульней у карты долі ня выіграеш.

(М. Гарадок, Беластоцкага павету).

У нас, у Гарадку зʼарганізаваўся гурток Бел. Сял.-Работ. Грамады ўжо 3-ці месяц, але працуе слаба, дзеля таго, што ёсьць тут пара людзей, якія ўвесь час замінаюць.

Гэта Я. Астравецкі, жыхар вёскі Пянькоў, але жыве ў Гарадку, а другі М. Хравускі з вёскі Зарачаны. Гэная неразлучная пара бараноў вельмі перашкаджае расшырэньню гурткоў, як у Гарадку, так і па вёсках. Кожнага знаёмага і незнаёмага чалавека яны страшаць;—кажуць: як запішашся ў гурток, то будзеш сядзець хутка ў вастрозе, як сядзелі і яшчэ сядзяць пару нашых хлопцаў і што старшыню гуртка ў Гарадку біў камэндант паліцыі па твару ды казаў: „згніе ў вастрозе разам з сваім гуртком".—І чаго толькі яны ня выдумываюць.

Што камэндант пастарунку біў старшыню гуртка, то гэта зусім няпраўда—гэта злосная выдумка Астравецкага з яго бараняй галавы.

Самае важнае тое, што гэная пара людцоў, а найбольш Я. Астравецкі ўносіць сярод маладых—17-18-летніх хлопцаў вельмі вялікую і страшэнную хваробу. Хвароба гэта—гульня ў карты на грошы. Няма тае нядзелі, каб ня было гэнай гульні. Скажу праўду, што, забраўшы чалавек 7-8 маладых хлопцаў, Я. Астравецкі мае вялікую карысьць з гэнай гульні: ён, як стары шулер, абыгрывае іх і дзярэ грошы. Вы, маладыя хлопцы, ня слухайце дурных старых асталопаў, на картах долі ня выіграеце. Лепш змагайцеся з іншымі за свае правы. У вольны час збірайцеся, чытайце супольна газэту, абгаварывайце Вашы супольныя справы. **Тойсамы з Гарадка.**

### Сэквэстратары.

(*Вынятак з вялікай карэспандэнцыі*).

(Беніцкая гм., Маладэчанскага пав.).

У грам. Міхала Асіповіча з фал. Нова-Поля забралі на падаткі апошняе сена, не пакінуўшы на зіму ані жмені. У грам. Анны Асіповіч забралі апошнюю сьвіньню, пакідаючы 3-х днёвыя парасяты.—Як прыйшлі па сьвіньню, — гаспадыня была дома,—сэквэстратар з паліцыянтам самы шукалі яе на выгане, дзе дзяўчынка пасьвіла сьвіньню. Дзяўчынка пачала прасіцца, каб пачакалі гаспадыні, а як не паслухалі, то падняла плач і крык, — зьбегліся людзі на гэта. „Паляўнічыя" прасілі людзей памагчы злавіць сьвіньню, але — ясна—ніхто не паслухаў, кажучы: „сёньня гэтую возьмеш, а заўтра прыедзеш па нашы"! Тады сэквэстратар заткнуў дзяўчынцы рот, каб ня крычала, а паліцыянт „наводзіў парадак сярод сьвіней." Не злавіў, загнаў яе ў лес;—праз некалькі дзён прыйшла сьвіньня, а ўсё-ткі падпільнавалі і забралі.

У Паўла Асіповіча з фал. Макрошчыцы за 58 зл. 60 гр. гэтыя сэквэстратары хацелі забраць жарабя—двузімка і карову, што варта 260 зл. — (Раней за гэты падатак апісалі 10-ці месяч. жарабя, а як прыехалі, то лепшае выбралі). Жывіну забіралі, а сэквэстрацыйных пратаколаў ня пісалі і выдавалі квіты без пячатак. **Полек Алекса.**

### Начальства.

(В. Маслава, Міжэвіцкае гм., Слонімскага павету).

Рыгор Наумчык, ад часу як стаў солтысам—лічыць сябе вялікім начальствам. Паіць мусіць яго кожны; калі часам спозьніцца на хрэсьбіны, ці іншае якое сьвята—прыйдзе сам на другі дзень.

Як ня даць яму, лічылі людзі: за бутэльку абяцываў ён звольніць навабранцаў з войска.

Хадзілі ў нас увесь час чуткі, што Наумчык—забойца, што задушыў ён дзеля кражы свайго суседа ў 1923 годзе. Людзі ведалі, але баяліся гаварыць—ведама начальства мае сілу, за ім—паліцыя, а тая пакуль суд і справа—не разьбіраецца.

Адзін селянін—Рыгор Куляшэвіч пераканаўшыся, што забойства фактычна было зроблена ім—пачаў баіць голасна аб гэтым суседзям.

Куляшэвіча адразу арыштавалі, па даносу солтыса, але ў канцы шыла з мяшка вылезла.

Зрабілі обыск у Наумчыка ды знайшлі рэчы забітага ў 1923 годзе суседа.

Вось якое ў нас начальства. **Х.**

### Бандыт.

(Камянская гм. Горадзенскі павет).

Пан Эмбрык з Мількавіцкага двара дужы, як конь. Панам цяпер усё можна—дык бʼе ён людзей направа і налева. Згадзіўся ў яго за пуд жыта селянін Х. Януцэвіч. Жыта падаражэла, дык пан хлеба не дае і хоча плаціць грашмі, але па старой цане. Калі Януцэвіч заспорыў — зачыніў пан дзьверы на ключ ды пачаў біць чалавека ў твар. Шчасьце, што на выплату прыйшла як раз сялянка М. Януцэвіч ды такім чынам ён уратаваўся.

Тое самае з другім жыхарам нашай вёскі М. Гарошкам. Пайшоў той у панскі лес награбсьці лісьця. Глядзіць—Эмбрык. „Хто пазволіў хадзіць па лесе? запытаўся ён.

Міхал кажа: хіба ня трэба было пытацца аб лісьцё.

Заспорылі.

Пан схапіў Гарошку, падняў вышэй сябе ды так удэрыў аб пень, што той ляжаў доўгі час бяз памяці.

Цяпер у шпіталю. Мае пераломаную скабу.

**Бачыўшы.**

### Катуюць!

(Косаўшчына).

Каля вёскі Галенчыцы, Борка-Гічыцкай гміны—праходзіць дзяржаўны лес. Лясьнічы п. Дубчынскі саўсім здурнеў, бо не дае ён карыстацца дарогай, якая праходзіць праз дзяржаўны лес да нашай сенажаці. Піша за гэта на людзей пратаколы і „мілуе" толькі тых, што нізка яму кланяюцца.

Шмат гора церпім ад гэтага чыноўніка. Даўней на балотах каля лесу—мужыкі дралі лазу на лапці і ніхто ім не забараняў. Цяпер — нельга. Вось нядаўна злавілі пан лясьнічы з сваім слугой сялян Лахая Арцема і Якуба Макарэвіча пры лазе—здабралі яе і парубалі ім тапары. Старыка Лахая (мае 60 гадоў) лясьнічы ўдарыў у грудзі так, што той напэўна доўга жыць пасьля гэтага ня будзе. **Недалёкі.**

### Панскія сабакі.

(М. Вішнева, Валожынскі пав.).

Нядаўна былі мы сьведкамі новых гвалтаў. Пайшлі нашы местачковыя бабы і дзеці ў букатаўскі лес, ды спаткаліся з лясьнікамі.

Прыляцелі яны ў трох (Пупа, Кулак і Скаўрон) адабралі ягады і кошыкі, пабілі збаны. Былі з імі і запраўдныя сабакі. Яніне Шынкевіч парвалі сабакі ўсю спадніцу. Дзеці напужаліся і цяпер хварэюць.

Лясьнікі-ж—горш ад сабак. Змусілі яны некатарых баб на каленях прасіць, каб іх ня білі і не скавалі.

Па два злоты налажылі на кожную штрафу.

Выслужывайцеся, выслужывайцеся, халуі. Дачакаецеся яшчэ свайго. **Вішнеўскі**

## Нам пішуць з вёскі што:

✕ Поп м. Росі, Ваўкавыскага пав., за хрышчэньне бярэ 6 зл., каўбасу, кусок хлеба і кусок палатна, за шлюб—50 зл. і г. д. Калі памрэ бедны і ня маюць за што пахаваць, то поп кажа: „Завядзі каня ці карову да жыда ў залог, прынясі грошы,—тады пахваю". А 8./VIII. с. г. на пропаведзі за тое, што ня ходзяць у царкву, пагражаў паліцыяй, што яна будзе пісаць пратаколы і заганяць людзей у царкву.

## Паштовая скрынка.

**Гр. Салаўю.** Для інтэрпэляцыі паслам патрэбны прозьвішчы асоб і канкрэтныя выпадкі.

**Грам. Ендрыку—Бодрыку.** Аб Вашай просьбе ў справе пасольскага мітынгу Сял.-Раб. Грамады на 8 верасьня ў Браслаўлю—мы паведамім паслоў. Цяпер яны ў разʼездзе. Калі змогуць—прыедуць.

**Гр. „Ялаўскаму".** Карэспандэнцыя Ваша нецікава для нашых чытачоў. Пішэце аб сялянскім жыцьці, аб фактах, крыўдзячых селяніна, — скарыстаем.

**Грам. „Прахожаму" і „Таму самаму з Гарадка".** — Газэту высылаем.

**Грамадзянам, прыслаўшым вершы:** скарыстаем, або дамо адказ у наступных нумарох.

## А Б В Е С Т К А.

Надзвычайны Агульны Сход Сяброў Таварыства Беларускае Школы 8-га жніўня г. г. не адбыўся дзеля браку патрэбнага ліку сяброў. З гэтае прычыны 8 верасьня г.г. у 4 гадзіны дня ў памяшчэньні Таварыства—Віленская 12 — паўторна адбудзецца Надзвычайны Агульны Сход Сяброў, які будзе правамоцны пры любым ліку сабраўшыхся Сяброў.

Парадак дня той самы: 1. Рэарганізацыя Т-ва паводле нова-зацьверджанага Статуту г. з. дзеля выбару Галоўнае Управы Наглядная Рады; 2. Бягучыя справы.

**Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы.**

Адказны-Рэдактар: Т. Крачына. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм П. Мятла.